# Тыднёвік Магілёўскі




№ 19 (134) 9 – 15 лістапада 2001 г. Кошт 80 руб.


## ...Каб ня сем гадоў папулізму





Фота IREX

*Як і прагназавалі аналітыкі, пасьля прэзыдэнцкіх выбараў грамадзяне Беларусі сутыкнуліся з падвышэньнем коштаў за камунальныя паслугі, праезд, харчы і тавары першай неабходнасьці.*

*Найбольшы ўдар адчулі пасажыры, якія карыстаюцца міжгародні транспартам. Кошт квіткоў на аўтобусы мясцовых фармаваньняў і электрацягнікі падвысіўся ў сярэднім на 30%. Адмыслоўцы кажуць, што найперш гэта сталася вынікам папулісцкай палітыкі, калі напярэдадні выбараў усе студэнты атрымалі бясплатны праезд – быццам бы на час капаньня бульбы. У выніку страты толькі чыгункі склалі больш за 80 мільёнаў рублёў. Цяперашнім радыкальным падвышэньнем коштаў праезду улады спадзяюцца кампэнсаваць атрыманыя страты.*

*Не засталіся ў баку й жыхары кватэраў: разьлік камунальных плацяжоў за кастрычнік прадугледжвае індэксацыю цэлага шэрагу тарыфаў. Апроч гэтага, ва ўрадзе разглядаюць прынцыпова новыя падыходы да аплаты за кватэру, калі за адзінку вымярэньня будзе ўзятая не карысная, а агульная плошча жыльля. За значна большыя грошы будуць набываць торф уладальнікі прыватнага жыльлёвага сэктару.*

*Чакаецца, што ўжо сёлета кошты паслугаў вырастуць удвая. У прыблізных лічбах штомесяцовая аплата будзе роўная 20-40 далярам. Пры цяперашніх заробках пэрспэктыва для многіх вельмі сумная. Затое супрацоўнікі агенцыяў нерухомасьці ўжо прагназуюць падвышэньне попыту на аднапакаёвыя кватэры і, адпаведна, рост іхняй цаны.*

*Аб узрослых коштах на вырабы харчаваньня любы з чытачоў можа меркаваць па штодзённых уласных візытах у крамы.*

*Былы старшыня Нацбанку С.Багданкевіч кажа, што кошты растуць найперш таму, што робіцца безрэсурсовая крэдытная эмісія. За мінулы год грашовая маса ў рублях вырасла на 234%, спажывецкія кошты – на 207%. Гэта значыць, што яны павялічыліся ў два разы. "Нацыянальны банк пад уплывам улады займаецца дзяржаўным фальшываманэтніцтвам. Гэта цягне інфляцыю і накладае інфляцыйны падатак на ўсіх грамадзянаў Беларусі", – тлумачыць мэханізм пагаршэньня жыцьця С.Багданкевіч.*

*Сярод прыкладаў неадпаведнасьці перадвыбарчых абяцаньняў і рэаліяў варта адзначыць двухразовае падвышэньне кошту падпіскі на пэрыядычныя выданьні. Адсутнасьць рэкламадаўцаў (з-за пагоршанага становішча прадпрымальніцкай сфэры), а таксама вялізныя выдаткі на паслугі "Белпошты" вымушаюць практычна ўсіх выдаўцоў ісьці на непапулярныя меры. Растуць і кошты ўласна сувязісцкіх паслугаў: адпраўка лістоў, тэлеграмаў, міжгароднае тэлефанаваньне.*

*Агульная непрывабная сацыяльная сытуацыя ўскладняецца яшчэ й тым, што ў краіне застаецца вялізная запазычанасьць па заробках. Цяпер яна вагаецца ў межах 33 мільярдаў рублёў.*

***Ігар КАРНЕЙ***

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## Так вырашыла моладзь

***Напачатку гэтага тыдня непасрэдна ў Курапатах адбылася прэсавая канфэрэнцыя новай абарончай ініцыятывы – Моладзевага Камітэту ў абарону Курапатаў, што зьяднала большасьць дэмакратычных моладзевых і юнацкіх арганізацыяў краіны.***

Павал Севярынец, кіраўнік Маладога Фронту, ад імя новага грамадзкага ўтварэньня абвесьціў, што моладзь вырашыла катэгарычна: дарогі праз урочышча, дзе каты забівалі нявінных людзей, і дзе зараз знаходзяцца магілы забітых продкаў, ня будзе! Існуе рэальны варыянт выпраўленьня памылковага праекту пабудовы кальцавой шашы вакол Менску, зручны для будаўнікоў і лагодны для абаронцаў. На ніякія іншыя кампрамісы моладзь ня пойдзе.

Павал Севярынец падкрэсьліў, што новая грамадзкая абарончая згуртаванасьць ня ёсьць выказваньнем недаверу раней утворанаму Грамадзкаму камітэту. "Цяпер нашыя сілы падвоіліся, – зазначыў лідэр МФ. – Нашыя звароты, пратэстныя акцыі, супольныя дзеяньні ў ахове сьвятога месца ад нападаў бяздумных і бяздушных пабудоўшчыкаў пашырацца й набудуць дадатковы грамадзкі імпульс".

Стварэньне моладзевай Ініцыятывы падтрымалі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (З.Пазьняка) і намесьнік старшыні БНФ (В.Вячоркі) Вячаслаў Сіўчык. Яны заклікалі беларускае грамадзтва сьмялей і шырэй далучацца да справы абароны Курапатаў, дапамагаць калі ня ўласным удзелам, дык цёплымі рэчамі й ежай для маладых вартаўнікоў, якія практычна жывуць у лесе больш за месяц і зьбіраюцца знаходзіцца там да перамогі.

***Паводле радыё "Свабода"***



Фота IREX

## Ніводнага дня без карыснай справы

***Група магілёўскіх студэнтаў на Дзяды ўпарадкавала "Польскія могілкі" па вуліцы Лазарэнкі. (Пагадзіцеся, што значна больш натуральна гучала б гэтае спалучэньне пры старым назове магілёўскай вуліцы – Віленская. Але ў нас гэтай неадпаведнасьці хапае на кожным кроку – "ТМ").***

Гэтай акцыяй маладафронтаўцы, а гэты былі яны, засьведчылі стварэньне ў сваім асяродзьдзі скаўцкай суполкі. Пакуль яна налічвае ня больш за 10 чалавек, але ж і ўступленьне ў скаўцкія шыхты – ня вельмі простая рэч. Дэвіз скаўтаў, дарэчы, ва ўсім сьвеце – ***"Ніводнага дня без карыснай справы!"*** Гэта могуць быць справы як грамадзка-гучныя, так і самыя звычайныя. Бо не схематычная традыцыя значнасьці зробленага, а рэальная карысьць (хоць бы і для аднаго чалавека) вызначае сутнасьць любога мерапрыемства ці акцыі.

Скаўцкі рух трымаецца на самадысцыпліне, бо за асноўныя якасьці сваіх сябраў вызнае патрыятызм, гатовасьць дапамагчы слабому, самаахвярнасьць у вялікім і малым. А гэта патрабуе найперш маральнай цьвёрдасьці, а толькі потым – фізычнай загартоўкі, якая зусім ня ёсьць самамэтай, а толькі неабходнай умовай для лепшага выкананьня добраахвотна прынятых на сябе скаўцкіх абавязкаў.

***Ігар КАЗЬМЯРЧАК***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Крычаўскі райсуд прыгаварыў да году умоўнага зьняволеньня мясцовага жыхара. Але падумайце, за што: "злачынца" купіў у землякоў 10 тон грыбоўлісічак ды падрыхтаваў іх да продажу ў Польшчу (засаліў і замарынаваў). Так, ліцэнзіі на падобную працу крычаўлянін ня меў. Але ж ён перамог у канкурэнцыі з афіцыйнымі дзяржаўнымі нарыхтоўшчыкамі. Можа, дзяржаве варта было б не чалавека караць, а зьмяніць умовы для прадпрымальніцтва, т.б. прыбраць залішнія ліцэнзіі, зьменшыць падаткі ды скараціць непатрэбных кантралёраў? Тады ня будзе квітнець "чорны бізнэс", і ў бюджэт пойдуць вялікія грошы, а людзі здолеюць жыць у згодзе з сумленьнем і законам.

Амаль 200 спажыўцоў электраэнэргіі ў вобласьці "адключаныя" за даўгі. Яшчэ 733 установы і прадпрыемствы абмежаваныя ў атрыманьні тока. Агульная запазычанасьць перад энэргетыкамі ў вобласьці склала 100 мільярдаў рублёў! Роўна палова названай сумы – на рахунку сельскагаспадарчай галіны. Энэргетыкі грозна патрабуюць аддаць ім даўгі, як бачым, нават адключаюць энэргію, але сытуацыя ўсё горшае. Змарнелая эканоміка ўсё больш тоне ў моры запазычанасьцяў.

У Магілёве прайшоў справаздачна-выбарчы сход мясцовай філіі Беларускага саюзу жанчын (БСЖ). Ёсьць некалькі нагодаў, каб узгадаць пра гэтую арганізацыю. Па-першае, трэба зазначыць, што ўладзе патрэбна мець структуру, якая дэманструе еднасьць "вэртыкалі" і, так бы мовіць, арганізаванай жаночай эліты. Па-другое, ня вельмі дасьведчаныя ў тутэйшым грамадзкім жыцьці заходнія дабрачынцы нярэдка пачынаюць супрацоўніцтва з тымі, на каго мясцовыя ўлады пакажуць. Цяпер так адбываецца і з БСЖ. Вось толькі часьцяком сродкі замежных філянтропаў разьмяркоўваюцца потым не на грамадзкую карысьць. На сходзе кіраўнічка мясцовай філіі БСЖ Ганна Апет (зразумела ж, дэпутатка лукашэнкаўскага "Савету рэспублікі") панаракала на цяжкое жыцьцё беларускіх жанчын. Аблвыканкамаўскі "шэф" прыўладных грамадзкіх аб'яднаньняў Анатоль Глаз паабяцаў кабетам шмат увагі і клопату....

У Шклове адчыніўся Цэнтар дасуга моладзі. Ён прапаноўвае шмат цікавых магчымасьцяў: ад дыскатэчнага адпачынку да інтэрнэтклюбу. Вядома, што звычайна ў нас падобныя ўстановы паступова дэградуюць, паколькі любая матэрыяльна-тэхнічная база патрабуе сталай падтрымкі і абнаўленьня, на што не стае грошай. На пабудову згаданага цэнтру грошы знайшліся – дапамаглі "заможныя шклоўцы" зь Менску. Але надалей ніякіх гарантыяў няма. Да слову, падобны цэнтар – адзіны на ўсю вобласьць.

У Магілёве адбыўся мітынг, прысьвечаны 84-й гадавіне "Кастрычніцкай рэвалюцыі", якую ва ўсім сьвеце называюць трапным словам "пераварот". Невыпадкова, што чарговую гадавіну захопу ўлады ў Расейскай імпэрыі бальшавікамі святкуюць у... Беларусі. Ды яшчэ як дзяржаўнае сьвята. Для цяперашняга рэжыму, які нядаўна падрыхтаваў тэрмін свайго кіраваньня, 7 лістапада – не пусты гук. Гэта спадчына...

Бабруйскі футбольны клуб "Белшына" заваяваў залатыя мэдалі нацыянальнага чэмпіянату. Гэты прыклад сьведчыць, што перамагаюць клубы, якія маюць багатых гаспадароў. Камбінат, што даў імя камандзе, можа дазволіць сабе ўтрымліваць яе і набываць лепшых гульцоў. Але нельга забываць пра ўзровень клюбнага футболу ў Беларусі. Ён ня вельмі розьніцца ад агульнага крызыснага эканамічнага стану ў краіне. Лепшыя таленты, як у любой іншай сфэры дзейнасьці, і ня толькі, зразумела, спартовай, зьязджаюць за мяжу. Трэніроўкі, тэхнічнае забясьпечаньне, спарынгматчы – усё другасортнае. Таму нашыя чэмпіёны не адпавядаюць эўрапейскаму футбольнаму ўзроўню, што, дарэчы, пацьвердзілі нядаўнія паразы ў эўракубках.

*Да сустрэчы праз тыдзень, Сымон Глазштэйн.*

ВОДГУКІ НА "УСХОДНЯЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ"

## Патрэбныя рэальныя справы

***У мінулым нумары "ТМ" быў зьмешчаны артыкул Андрэя Кузьміна "Першая цэгла для новага падмурку", у якім паведамлялася пра паўстаньне рэгіянальнай Рады па падтрымцы недзяржаўных арганізацыяў ды ініцыятываў магілёўскага Ўсходу. Паміж радкамі гэтай ідэі чыталася (магчыма, часамі справядлівая) крыўда на абласныя і сталічныя грамадзкія цэнтры, што выкарыстоўваюць наяўныя рэсурсы на "свае" мерапрыемствы і патрэбы – пры тым, што "нізавы" узровень грамадзкай супольнасьці ня менш здольны і актыўны ў пабудове Адкрытага дэмакратычнага грамадзтва...***

***Як жа сустрэлі паведамленьне пра ўсходнюю ініцыятыву ў Магілёве?***

**Віталь Васількоў, дырэктар МГА "Кола Сяброў":**

– Мне спадабалася ідэя стварэньня структуры, што мае на мэце аб'яднаньне дэмакратычна настроеных людзей у адпаведным рэгіёне, у дадзеным выпадку – усходнім. Адна з задачаў "Кола Сяброў" – гэта спрыяньне пашырэньню грамадзкай ініцыятыўнасьці, самастойнасьці і самарэалізацыі любых рэалістычных, дзейных прапановаў, што накіраваныя на пашырэньне дэмакратыі. Ініцыятыўнасьць менавіта Крычава – рэч цалкам натуральная. Там ёсьць людзі, здольныя працаваць, людзі цікавыя, з досьведам у нашай агульнай справе. Добра, што яны знайшлі ў сваім шырокім рэгіёне – на ўсходзе вобласьці – такіх самых людзей, што гатовыя рухацца ў напрамку грамадзянскай адкрытасьці і самарэалізацыі. Усё залежыць толькі ад рэальных справаў. Будуць яны – нашая падтрымка, наш удзел у клопатах новапаўсталай арганізацыі будуць забясьпечаныя.

**Аляксей Колчын, старшыня абласной Асамблеі недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў:**

– Па-мойму, любая гарызантальная інтэграцыя лепш за вэртыкальную, асабліва ў нашых грамадзкіх справах. Чым менш пасярэднікаў у адносінах і справах, у дачыненьнях паміж людзьмі – тым лепш і больш эфэктыўна для вынікаў дзейнасьці. Менавіта незафармалізаванасьць структурных пабудоваў у грамадзкім сэктары найлепш спрыяе посьпеху ў іхняй працы. Што тычыцца маёй грамадзкай пасады старшыні Асамблеі, дык даволі часта я пакутваю якраз ад недахопу ініцыятываў у рэгіёнах. Таму "усходнюю ідэю" магу толькі вітаць з надзеяй на ейную грамадзкую папулярнасьць і дзеляву́ю выніковасьць. Цяпер канкрэтныя справы выявяць усё. Што тычыцца Асамблеі, дык яна, не сумняюся, будзе падтрымваць новую структуру.

**Алесь Асіпцоў, кіраўнік абласной грамадзкай інфармацыйнай сеткі:**

– Добрая ідэя. Хаця я лічу, што недарэчна супрацьпастаўляць рэгіён і цэнтар. А такі намёк ёсьць у стварэньні новай структуры. Што ж рабіць сталіцы альбо нам, абласному цэнтру, што мы такімі ёсьць, а менавіта – сталіцай і абласным цэнтрам? Тут мы наўпрост закладнікі адміністратыўнага падзелу, адміністратыўнай структуры краіны, і ня больш за тое, калі ставіцца да гэтага бяз рэўнасьці і крыўды. Мы будзем спрыяць разьвіцьцю новай структуры, будзем шукаць агульныя справы, пераадольваць агульныя праблемы. Узаемавучыцца. А на вопыце "усходняй структуры", калі яна рэальна і вынікова запрэзэнтуе сябе, – будзем ініцыяваць стварэньне нечага падобнага ў іншых рэгіёнах. Уся справа ў людзях, іх наяўнасьці і гатовасьці працаваць. Выбары нядаўнія, можа й нечакана для некаторых палітычных структураў, выявілі нараджэньне грамадзкіх ініцыятываў, што сталіся магчымымі з-за наяўнасьці ў рэгіёнах людзей, пра існаваньне якіх ніхто, магчыма, і не здагадваўся. Людзей цікавых, таленавітых, дзейных. Выбары іх згуртавалі і загартавалі. Не павінны яны аддаваць гэты свой сумленна зароблены досьвед і аўтарытэт каму-небудзь толькі на той падставе, што жывуць у правінцыі. Яны здольныя і працаваць, і жыць самастойна. Тут можна толькі парадавацца і спадзявацца на сумесную працу.

## У Варшаву прасачыцца ўдалося

***Кіраўніцтва Беларусі, як вядома, знаходзіцца ў цывілізаванай Эўропе па-за межамі прызнаньня і кантактаў на адпаведным узроўні.***

Заканамэрна, што краіна не была прадстаўленая кіраўніком сваёй выканаўчай улады і на Канфэрэнцыі кіраўнікоў дзяржаваў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, што адбылася ў мінулы аўторак у Варшаве па ініцыятыве прэзыдэнта Польшчы А.Квасьнеўскага.

Першыя асобы 26-ці краінаў прынялі там адмысловую Дэклярацыю ў справе змаганьня супраць тэрарызму. Ветлівыя гаспадары мерапрыемства прадаставілі візу і магчымасьць каротка выступіць на паседжаньні таксама прадстаўніку Рэспублікі Беларусі, якім быў кіраўнік Адміністрацыі прэзыдэнта Урал Латыпаў.

Сваёй прамовай, як тое адзначаюць журналісты, ён зьдзівіў як прысутных, так і палітычны істэблішмэнт РБ. Сп.Латыпаў абвесьціў поўную падтрымку амэрыканскай вайсковай апэрацыі ў Афганістане, пахваліўся здабыткамі ў справе барацьбы з тэрарызмам у Беларусі й выказаў спадзеў на "магчымасьць і жаданьне Беларусі наладзіць шчыльнае супрацоўніцтва з NATO". Такіх словаў ад самога Лукашэнкі ў краіне ніколі ня чулі.

Камэнтары назіральнікаў і першыя водгукі на латыпаўскія "ініцыятывы" беларускіх дэмакратычных палітыкаў сьведчаць пра тое, што афіцыйны Менск скарыстаўся варшаўскай трыбунаў для дасягненьня задачы сваёй легітымізацыі ў эўрапейскіх структурах. Прадстаўнікі дэмакратычных сілаў Шушкевіч і Нісьцюк адкрыта назвалі выказаныя Латыпавым прапановы хлусьнёй, разьлічанай выключна на вонкавае ўспрыняцьце, бо на іхны погляд ніякіх цывілізаваных зьменаў у палітыцы Лукашэнкі, асабліва – на міжнароднай арэне, не адбываецца й не плянуецца. Лукашэнкаўскім прадстаўнікам, што трапляюць на замежныя трыбуны і ў замежныя СМІ, дазваляецца прамаўляць такія "прагрэсіўныя выказваньні" толькі ў дыпляматычных мэтах і з нагоды цяперашняй міжнароднай палітыцы Масквы й асабіста Пуціна. На справе ўсё застаецца па-ранейшаму: Менск актыўна супрацоўнічае з рэжымамі, якія супрацьстаяць цывілізацыі і дэмакратыі, а ўнутры краіны ніколькі не суцішвае антыNATOўскую прапаганду.

*Паводле інф. агенцыяў*

## Разумеюць па-рознаму

***На адмысловай сустрэчы прадстаўнікі апазыцыі і Лукашэнкі пагадзіліся адмовіцца ад перадумоваў і ўльтыматумаў пры наладжваньні магчымых перамоваў.***

У сустрэчы бралі ўдзел лідэры БНФ (В.Вячорка), АГП, ПКБ, Партыі працы, "Народнай Грамады", а таксама некаторых галіновых прафсаюзаў. Адміністрацыю краіны прэзэнтаваў памочнік Лукашэнкі Сяргей Посахаў. Першая размова зьвялася да дамоўленасьці пра тое, што перамовы паміж уладай і апазыцыяй нарэшце пасьля выбарчай дэмакратызацыі беларускага грамадзтва цалкам магчымыя і нават патрэбныя. Аднак рознае разуменьне бакамі самога перамоўнага працэсу засталося.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька заявіў, што апазыцыя і ўлада маглі б вызначыцца ў пытаньнях захаваньня сувэрэнітэту Беларусі і пошуку выйсьця краіны з эканамічнага крызысу. Юры Хадыка вярнуўся да так ніколі й ня выкананых знакамітых "чатырох умоваў", у ліку якіх – спыненьне ў краіне палітычных рэпрэсіяў і дапушчэньне апазыцыі да дзяржаўных СМІ.

Аднак Посахаў заявіў, што перамовы можна весьці толькі ў выпадку прызнаньня з боку апазыцыі "рэальнасьцяў", якія скляліся ў краіне, а таксама – моцнасьці ўлады, якая трымаецца надзейна й ня мае патрэбы ў якім бы ні было пасярэдніцтве Захаду ў перамовах ("чатыры ўмовы", як вядома, былі ўзгодненыя з шэрагам эўрапейскіх структураў).

Выніковы першай сустрэчы ўдзельнікаў магчымых перамоваў афіцыйна не фіксаваліся й не былі сфармуляваныя ў якасьці рашэньняў. Ці паслядоўць за ёй непасрэдныя перамовы, пакуль невядома.

*Валер КАЛІНОЎСКІ*

## НОВЫЯ ХВАЛІ БЕЛАРУСКАЙ СВАБОДЫ

**Ад 28 кастрычніка разам зь пераходам на зімовы час зьмяніліся хвалі і частоты вяшчаньня Беларускай службы Радыё "Свабода".**

**18:00 – 20:00**
612м – на сярэдніх частотах
41м – 7190 кгц, 31м – 9615 кгц, 19м – 15460 кгц
**20:00 – 22:00**
612м – на сярэдніх частотах
49м – 6150 кгц, 41м – 7280 кгц, 31м – 9835 кгц
**22:00 – 24:00**
612м, 1188м – на сярэдніх частотах
49м – 6010 кгц, 6170 кгц
31м – 9845 кгц
**06:00 – 08:00**
612м, 1188м – на сярэдніх частотах
49м – 6140 кгц
31м – 9635 кгц, 9835 кгц.

У праграме:
...навіны зь Беларусі і ўсяго сьвету, правы чалавека, апазыцыя, улада, родная мова, эканоміка, мэдыцына, культура, гісторыя, эміграцыя...
ІНТЭРНЭТ: http://www.svaboda.org
Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111
Vinohradska 1, 11000 Praha 1, CZ
**НАСТРОЙЦЕСЯ НА СВАБОДУ!**

## Суд зачынены, ня гладкі...

Сёньня ў Менску, пасьля "сьвяточнага" перапынку, мае аднавіцца закрытае судовае паседжаньне ў справе групы былога спэцназаўца Ігнатовіча.

Напярэдадні суд завяршыў допыт пацярпелых, а менавіта Сьвятлану Завадзкую і грамадзяніна Аліева, які таксама праходзіў ў сталіцы. На папярэднім сьледзтве па факту адначчаснага кватэрнага забойства некалькіх сваіх блізкіх, якое інкрымінуецца групе Ігнатовіча, сп.Аліеў даваў паказаньні, якія выкрывалі апошняга як відавочнага забойцу. Гэтым разам, па інфармацыі журналістаў, Аліеў ня быў такім катэгарычным. Разыходжаньне ў паводзінах, паводле назіральнікаў, тлумачыцца тым, што раней сп.Аліеў сам падазраваўся сьледзтвам у арганізацыі жудаснага злачынства супраць сваіх сваякоў. Цяпер гэтае падазрэньне зь яго зьнятае, і ён хоча дамагчыся праўды, а не суцяшальнага задавальненьня самым фактам таго, што за злачынства нехта пакараны.

Жонка Завадзкага Сьвятлана, дапытаная ў судзе, таксама выказвае сумнеў у тым, што ў залі знаходзіцца выкрадальнік і верагодны забойца ейнага мужа, і што такім чалавекам ёсьць менавіта Ігнатовіч. Яна прывяла некаторыя аргумэнты таго, што па абставінах справы, як яны падаюцца сьледзтвам, Ігнатовіч хутчэй за ўсё ня мог бы зьдзейсьніць злачынства супраць Зьміцера "у той час і ў тым месцы".

Напярэдзе ў суда яшчэ шмат працы, калі ўзгадаць тую акалічнасьць, што Ігнатовіч падчас сьледзтва і ў залі суда віноватым у злачынстве супраць Завадзкага сябе не прызнаў.

*А.Г.*

## Будзе новая стратэгія

Ута Цапф, 60-гадовая дэпутатка нямецкага Бундэстагу, старшыня парлямэнцкай камісіі па сувязях зь Беларусьсю, прызначаная старшынёй рабочай групы Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ па Беларусі.

Шэраг нямецкіх палітолягаў і заходніх экспэртаў па Беларусі, камэнтуючы гэтае прызначэньне, падкрэсьліваюць, што спадарыня Цапф у адрозьненьне ад спадара Севярына *(які займаў гэтую пасаду да яе – "ТМ")* – не дыплямат, у яе няма ягонага вопыту будаўніцтва міжнародных стасункаў. Аднак, як зазначаецца, яна цудоўна ведае Беларусь і асабіста – многіх беларускіх палітыкаў.

Ута Цапф нядаўна заявіла, што "ізаляцыя нічога добрага беларускаму народу не прынесла". Аналітыкі мяркуюць, што сярод першых крокаў, якія зробіць спн.Цапф на пасадзе старшыні рабочай групы ПА АБСЭ, будзе прадастаўленьне Беларусі статусу запрошанага госьця ў Парлямэнцкую Асамблею. Але такое станецца магчымым, калі Менск (Лукашэнка) пагодзіцца на пашырэньне паўнамоцтваў "палаты прадстаўнікоў", якая сёньня зьяўляецца не парлямэнтам у эўрапейскім разуменьні, а бездакорнай "машынай для галасаваньня". Другая важная акалічнасьць – адносіны Лукашэнкі да місіі АБСЭ ў Беларусі, якую падчас нядаўніх выбараў ён абяцаў "выгнаць". Спн.Цапф, на думку аналітыкаў, таксама праявіць інтарэс да "любых канструктыўных крокаў апазыцыі па вяртаньні да дыялёгу з уладамі".

*Алена ПАНКРАТАВА*

## Можна было й не праводзіць

***Ад 25-ці да 28-мі адсоткаў галасоў за Ганчарыка, Гайдукевіча або супраць усіх кандыдатаў на выбарах прэзыдэнта былі... перададзеныя Лукашэнку.***

Адпаведныя лічбы названыя ў спэцыяльным дакладзе Беларускага Хельсінскага Камітэту "Выбары прэзыдэнта Беларусі: вынікі незалежнага назіраньня". Паводле падлікаў незалежных назіральнікаў, фальсыфікацыі чыніліся на ўсіх узроўнях выбарчага працэсу: ад датэрміновага галасаваньня да падліку галасоў.

Кіраўнікі незалежнага назіраньня Тацяна Процька й Мячыслаў Грыб на мінулым тыдні заявілі, што пры наяўных варунках правядзеньня сёлетніх выбараў прэзыдэнта іх ***можна было не арганізоўваць увогуле.*** Маштабы фальсыфікацыяў нагэтулькі значныя, што нават не паддаюцца поўнаму апісаньню й фіксаваньню. Можна казаць толькі аб прыблізных памерах фальсыфікацыяў – гэта траціна ад усіх галасоў.

*Віктар МУХІН*



Фота IREX

## Прыйдзецца адказваць ці пранясе?..

"Зьявіцца асабіста на паседжаньне суду", – такі вэрдыкт вынесла судзьдзя Першамайскага суду Менску Алена Апанасенка ў дачыненьні да сумна вядомага бэтэшнага рэжысэра Юрыя Азаронка.

Грамадзянскі зыск супраць яго падаў у суд старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька – за паклёп, які ўтрымліваўся ў адной з сэрыяў фільму "Тайныя спружыны палітыкі", дзе аўтар зьвінавачваў лідэра АГП у прысваеньні васьмі з паловаю тысяч даляраў ЗША.

Свой зыск супраць Азаронка й БТ А.Лябедзька падаў яшчэ паўгода таму. Разгляд справы шматкроць адкладаўся. Прадстаўнікі АГП самі знайшлі копію фільму Азаронка й прадэманстравалі яе ў судзе. Прадстаўніку БТ заставалася толькі хадайнічаць у судзе аб выкліку на паседжаньне самога Азаронка, каб той прызнаў аўтарства ўласнага фільму.

*Генадзь КЕСЬНЕР*

## Выратуе хуткая тэрапія

***Як на мінулым тыдні сьведчылі спэцыялісты, Магілёў, Бабруйск і Горкі забясьпечаныя ў дастатковай колькасьці спэцыяльнай сывараткай для дыягностыкі і лячэньня вугліка.***

Апошнія выпадкі захворваньня людзей на вуглік *(па-расейску: сибирская язва – "ТМ")* у вобласьці былі адзначаныя 33 гады таму. Згодна з інфармацыяй абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялёгіі, у 1968-ым годзе чатыры чалавекі захварэлі ў Чавускім і Клімавіцкім раёнах, адзін зь іх памёр. У 1975-ым годзе адзначаны факт заражэньня гэтай хваробай у жывёл. Зараз на Магілёўшчыне зарэгістравана каля 130-ці могільнікаў, дзе знаходзяцца рэшткі жывёлы, якая загінула ад вугліка. Усе гэтыя могільнікі, як сьцьвярджаюць у цэнтры гігіены і эпідэміялёгіі, знаходзяцца пад пастаянным кантролем адмыслоўцаў.

*Паводле БЕЛАПАН*

**P.S.** Як паведаміў "ТМ" наш карэспандэнт Андрэй Кузьмін, у 60-ыя гады ў Крычаве была выяўленая карова, хворая на вуглік. Яе забілі й пахавалі – па ўсіх правілах барацьбы з эпідэміямі. Аднак гаспадар жывёлы разам з сваім сябрам уначы выкапаў карову і злупіў зь яе скуру: на продаж. Пры гэтым ён парэзаў палец. Праз некалькі дзён небаракі былі зьмешчаныя ў мясцовы шпіталь, дзе стасункі зь імі мелі толькі мэдработнікі, апранутыя ў ахоўныя касьцюмы. Апаратыўны курс лекаваньня паспрыяў тады хуткаму выздараўленьню абодвух вяскоўцаў.



Фота IREX

## Пасьпяховая галіна

Паводле зьвестак крыніцаў амэрыканскай выведкі, толькі ў першай палове бягучага году Рэспубліка Беларусь падпісала кантракты з арабскімі, палестынскімі й альбанскімі экстрэмісцкімі групоўкамі на пастаўкі зброі.

Агульная сума паставак – больш за $500 мільёнаў. Кіруючы ў Беларусі рэжым ня толькі прадае зброю, што засталася з савецкіх часоў. На працягу свайго кіраваньня ён нават пашыраў вытворчыя магутнасьці ВПК. На 10 млн. беларусаў цяпер прыпадае, напрыклад, 1.700 танкаў Т-72. РБ уваходзіць зараз у першую дзясятку пастаўшчыкоў узбраеньняў краінам "трэцяга сьвету", некаторым зь якіх купляць зброю забаронена эмбарагам ААН.

Сымон Вэзэмэн, вядучы экспэрт па кантролю за распаўсюджаньнем зброі стакгольмскага інстытуту SIPRI, сьцьвярджае, што "Беларусь зьяўляецца самай сакрэтнай краінай у пытаньнях заключэньня зьдзелак па пастаўках узбраеньняў за мяжу й адной з найболып безадказных у гэтым пытаньні". Дарэчы, менавіта таму заходнія назіральнікі вымушаныя грунтаваць свае высновы на паведамленьнях выведкі й інфармацыі з дыпляматычных крыніцаў.

*Паводле БЕЛАПАН*



Фота IREX

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 19. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 08.11.2001 г. а 17.05.